я знаю, бо маніць мне няма ніякага сэнсу. Ну, выбачай, таварыш, за гэту мімавольную сентыментальнасць. Бывай!

**38**

ТЭЛЕГРАМА
9. VII.19 партком
Заўтра выязджаю кропка здаю Грышчанку.

*Гроцкі*

**39**

Сакрэтна

**Час. камандзіру атрада Кузьмёнку**

Загадваю зараз жа арыштаваць сябра рэўкома Зянькевіча і трымаць пад надзейнай вартай да асобнага распараджэння. Падрыхтаваць атрад да выступлення сягоння ўночы. Выхад атрада з мястэчка павінен прайсці непрыметна. Аб часе выступлення я дам загад асабіста. Я буду знаходзіцца з атрадам.

*Старшыня рэўкома Гроцкі*

*9. VII.19 г.*

**40**

**У N-ю павятовую надзвычайную камісію**

Разам з гэтым перадаецца на Ваша распараджэнне правадыр шайкі бандытаў Заслаўскі і 15 яго таварышаў згодна прыкладзенага спіску, забраныя ўночы з 9 на 10 ліпеня ў в. Семкаве. Падрабязнасці забрання бандытаў у даносе камандзіра атрада т. Мякуша. Адначасна перадаецца быўшы сябра вал. рэўкома Зянькевіч, які выкрыты ў здрадзе і зносінах з бандытамі, што відаць з прыкладзенай пры гэтым запіскі, якая напісана, відавочна, яго рукой. У мясцовай ячэйцы атрыманы толькі што неафіцыйныя весткі, якія прымушаюць сумнявацца ў яго сапраўднай належнасці да РКП(б).

*Час. старшыня Чарняўскага рэўкома Грышчанок*

*№ 179*
*10 ліпеня 1919 г.*

**41**

**(З газетнае хронікі)**
ЛІКВІДАЦЫЯ БАНДЫ ЗАСЛАЎСКАГА

9 ліпеня г. г. у в. Сёмкаве, Чарняўскай воласці атрадам па змаганні з бандытызмам злоўлен правадыр шайкі бандытаў Заслаўскі і яго 15 таварышаў. Падрабязнасці забрання бандытаў вось якія:

За тры дні да гэтага ў банду пранікла абліччам прастытуткі адна мясцовая дзяўчына, якая сышлася з Заслаўскім і ўвайшла ў курс жыцця банды. Узнаўшы, што Заслаўскі рыхтуецца ўночы на 10 ліпеня наведацца ў в. Сёмкава, дзяўчына паведаміла аб гэтым у мясцовы рэўком. У тую самую ноч у в. Сёмкава быў выслан атрад, які абкружыў хату, дзе быў Заслаўскі, і пасля ўпартага адпору з боку бандытаў яны ўсе былі забраны, апрача трох, забітых на месцы. Сам Заслаўскі забраны жывым, але цяжка паранены. З боку атрада — пяць раненых і тры забіты. Сярод забітых — старшыня мясцовага рэўкома т. Гроцкі. Таксама забіта й тая дзяўчына, якая была з бандытамі і выдала іх.

Злоўленыя бандыты накіраваны ў надзвычайную камісію, якой цяпер вядзецца следства з мэтай выкрыцця рэшты ўдзельнікаў банды.

**42**

N-скі павятовы партыйны камітэт з жалем паведамляе аб геройскай смерці на фронце барацьбы з бандытызмам старшыні Чарняўскага рэвалюцыйнага камітэта Ігната Рыгоравіча Гроцкага.

## Паэма пра чорныя вочы

Сем гадоў я шукаў цябе ў сумятлівым моры жыцця, каб скончыць недапетую песню нашае дзівосна яскравае дружбы.

Я не сумаваў па табе, я не ўздыхаў і не плакаў. Я толькі часамі бачыў цябе, калі ў маім уяўленні спакусліва разгортваліся шырокія палотны мінулага і сталёва свежая шыр (помніш нашы паходы?) дражніла сваёй непазбыўнай рамантыкай. Я бачыў цябе зусім выяўна — тонкую, гнуткую постаць тваю ў вайсковым адзенні, антычны твой твар, твае вострыя чорныя вочы. І вось тады мне чамусьці здавалася, што я павінен знайсці цябе, што павінны мы скончыць перарваную песню нашае дружбы.

І, нарэшце, я цябе знайшоў. Я выпадкова пачуў, што ты тут, і пайшоў да цябе, поўны смутнай трывогі і радасці.

У гэтым ружовым пакоі з мяккай канапай, з дыванамі па сценах мне чамусьці цяжка, няёмка. Я не ведаю, як з табой гаварыць, я адчуваю, што ты шкадуеш мяне, мне страшна за нашую песню, за нашую дружбу. Чаму не сустрэліся мы дзе-небудзь на вятраных берагах сцюдзёнай Дзвіны, чаму я не ў чаравіках дзіравых з абмоткамі, чаму ты не ў тоўстай салдацкай шынелі, якая сціпла хавае твае дзявоцкія формы, у якой ты мне — дарагі, любы таварыш!..

Я гляджу на твой твар і з трывогай бачу ў ім нешта новае, нешта цяжкое, гладкае. Твае вочы сталі вузкія ад пачуцця дабрабыту, усмешка твая вязне ў цягучай марудлівай млосці. Я хачу не глядзець і не магу адвесці вачэй... Мне шкода, шкода цябе — майго дарагога, любага таварыша, мне шкода мінулага нашага.

Пастой... Я напомню табе аб гэтым мінулым, я квяціста-яскравымі вобразамі сатру з твайго твару гэтую млявую гладзь, твае чорныя вочы зноў загарацца вострым агнём, ты станеш такая, якая была ў тыя бурлівыя дні.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нашы патомкі складуць шмат прыгожых легенд аб днях, у якія гарэла святая нянавісць і морам лілася кіпучая кроў. Аб іх будуць расказваць старыя дзяды блакітнавокім унукам, і ўнукі будуць загарацца запалам гэтых вялікіх дней.

Калісьці ты прыйшла да нас, поўная такога запалу. Я адразу тады зразумеў, што тваё сэрца кіпіць, што ты прагнеш

барацьбы, хочаш аддацца ёй, хочаш загінуць. Ты адразу сказала мне, востра бліснуўшы вачмі:

— Таварыш камісар! Я вазьму вінтоўку і пайду ў роту.

Я пакінуў цябе пры штабе. Мне нялёгка далося ўгаварыць цябе, што і тут можна быць карысным, што небяспека тут не меншая, што і тут людзі патрэбны.

І вось пачало нешта расці паміж нас. Я назваў гэта дружбай, а што гэта было сапраўды — я не знаю. Ты памагала мне.

У цябе ў той час была сіла. Помніш твой жарт наконт «мокрай прытульнасці»?

О, гэта была цяжкая, страшэнная ноч. Калі я ўспамінаю аб ёй, я адчуваю фізічны холад, я здрыгаюся, быццам мяне абдаюць жорсткай, сцюдзёнай золлю. І ты, слабая дзяўчына, суцяшала мяне, выдумляючы нейкае глупства аб тым, што, седзячы пад халодным, ледзяным дажджом і не шаволячыся, можна адчуць асаблівую прыемнасць і цяплынь. Толькі каб аніні не зварухнуцца, каб аддацца цалкам дажджу і старацца ўявіць, што дождж цёплы, што ён не халодзіць, а грэе. Ты назвала гэта — «стварыць мокрую прытульнасць». Я, помню, прабаваў гэтак рабіць, і сапраўды было цёпла, і весела было, і я потым хадзіў да чырвонаармейцаў дзяліцца з імі сваёй бадзёрасцю...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не, я цябе не кахаў. Я не бачыў цябе як жанчыну. Можа, гэта таму, што повен быў у той час другім, больш пільным і важным, таксама, як і ты, як і ўсе, хто з намі быў. Мне ўспамінаецца той вечар у маёнтку... Гэта выйшла неяк зусім няўрымсля і нечакана. Я не хацеў гэтага, не імкнуўся да гэтага. Мне потым было непрыемна. Я помню (аб гэтым смешна казаць, але — хай сабе), калі я цябе неяк узяў за руку, дык адразу мне дзікім здалося, што рука такая малая і мяккая, што яна неяк квола, падатна засталася ў маёй і чамусьці дрыжэла... І ўсё, што потым было, прайшло зусім несуразна і дзіка...

Не, я цябе не кахаў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яшчэ вось што... Калі па лясах і палях пасцілаецца жоўтай празрыстасцю восень і глыбачэюць крыштальныя далі, калі сеецца ў полі журавінавы пах пажоўклай травы, я ўспамінаю нашы паходы. Я рассыплю прад тваімі вачмі

абрыўкі тых пекных малюнкаў, ты пачуеш непазбыўна-знаёмае, вольнае…

Ахутаныя старожкім шолахам калоны…

Рэдкі — упаўголаса — гоман…

Глухі, уцісклівы тупат стрымленых коней…

Нехта мармыча ледзь чутна нейкую песню…

Нейчы спудзіўся конь, лапатнуў з усіх ног ад куста…

Нехта каманду прапеў упаўголаса: — Пад но-о-г-і…

І маўчыць цёмны санлівы лес, лезе з бакоў у самыя вочы абвіслай сваёй барадой — і сліна цячэ з бароды, мажа твар прыкрым макроццем…

Пахне коньмі, пахне цішынёй насцярожанай, пахне шынелямі і людзьмі…

Нечым пахне — дружным, як хвалі, моцным, як сталь, і напорным, як бура…

Або так…

…Лёгкае восеньскае сонца…

Стары бярозавы шлях — дзіравая жоўтая стужка…

Мерны, бадзёры поступ пяхоты…

Пыл здаецца сталёвым налётам, здаецца, што ўсё ў сталі…

Песня…

Песні былі рдзяныя, як усход, звонкія, як восеньскі холад, імклівыя, як прастор…

Ты ішла разам з усімі. Ты пела так: закідала назад галаву, жмурылася, нібы глядзела на сонца, і крычала. Помніш, як цёпла смяяліся хлопцы, калі ты спявала?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Слухай, я раскажу яшчэ апошняе. Я напомню табе наш апошні дзень. Мне таксама быў ён цяжкі. А табе была мука, я ведаю. Толькі не каюся я ні ў чым, не шкадую нічога…

Ты помніш, які гэта быў страшэнны, напружаны бой? Помніш, у якой сумятні быў наш штаб, якая была сумятня наўкола? Музыка гэтага бою жыве ва мне да гэтага часу! Яна зраслася ў адзін грымучы акорд, у якім перабблытаны ўздыхі гармат з траскатнёй кулямётаў і стрэльбаў, з адчайным рыпеннем абозаў, з недалужным стогнам параненых, з мітуслівым гвалтам асалапелых ад страху.

Наш полк біўся адважна. Але сіла была не на нашым боку. З кожнай мінутай у штаб прыляталі трывожныя весткі. Нам трудна было ўжо трымаць сувязь з часцямі, мы разагналі ўсіх

веставых, і шмат з іх не вярнулася. Штаб паспешна рыхтаваўся адступаць.

Тады прыйшоў загад зняць полк з пазіцыі. З батальёнамі сувязі ўжо не было, пры штабе не было ніводнага ардынарца, не было каго паслаць з загадам.

Я не збіраўся цябе пасылаць, у мяне не было і думкі аб гэтым. Але ты стаяла паблізу, і я няўмысля зірнуў на цябе. Тады ўжо я не мог не паслаць…

Ты была незвычайная. Я добра помню, якая была ў той міг. Ты стаяла нерухома, падаўшыся троху наперад, твар твой быў белы як снег, і з яго зрываліся вострыя чорныя вочы — не вочы, а чорны агонь — жывы і пякучы.

Ты ўся была — парыванне і воля.

Ты ўся была — адно імкненне.

Я тады ўвесь загарэўся магутнай радасцю, я, можа, нават кахаў цябе ў тую хвіліну. Я ледзь стрымаўся тады, каб не кінуцца да цябе, каб не абняць цябе — любага майго таварыша, героя. Гэта ж наўмысля я цябе так суха паклікаў тады, нават назваў па прозвішчу. Гэта ж наўмысля я не сказаў ані слова, апрача сухога лаканічнага загаду…

Я з захапленнем сачыў за табой, я не зводзіў вачэй, любаваўся, як ты адважна схапіла стрэльбу, спрытна ўскочыла на каня і паляцела птушкай па полю насустрэчу смерці.

Ты была прыгожая тады. Ты такой і засталася ў маім уяўленні, такою я бачыў цябе ўсе сем год, такую шукаў.

Потым я сустрэў цябе на дарозе, за вёскай. Мы ехалі насустрэчу нашым часцям, прабіваліся скрозь затоку павозак, конных і пешых людзей, скрозь гармідар адступлення. Цябе везлі на тэлефоннай двухколцы нашы армейцы. Убачыўшы мяне, яны спыніліся і дапытліва зірнулі, чакаючы загаду.

Ты глядзела на мяне ціхімі пагасшымі вачмі, у якіх скрозь маўклівыя слёзы свяціўся стрымлены боль. Я знаю, ты хацела астацца са мной, ты хацела тады ласкі блізкага, хацела добрага спагаднага слова. Я не ведаю, можа, я зрабіў вельмі жорстка, можа, іначай трэба было. Але я не каюся, я не шкадую. Я рабіў па закону барацьбы. Помніш? Я сказаў толькі два словы:

— Адправіць у шпіталь…

Пакуль вы ад'ехалі, я яшчэ раз сустрэўся з табой вачмі. Мне здалося, што ты ўсміхнулася мне. Але гэта, пэўна, толькі здалося, бо я хацеў гэтага, я напружана чакаў гэтае ўсмешкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось і ўсё. З таго часу сем год я шукаў цябе, каб скончыць недапетую песню нашае дзівосна яскравае дружбы.

І вось я знайшоў. Вось сяджу прад табой, збянтэжаны гэтым ружовым пакоем з мяккай канапай, з дыванамі па сценах, збянтэжаны нечакана — новым выразам твайго антычнага твару.

Не, я цябе не знайшоў, я шукаю яшчэ. Я пільна азіраю тваю прыгожую, пышную постаць, выразна акрэсленую складкамі шоўку, я з балючым напружаннем углядаюся ў твар твой, я хачу працяць сваім гарачым поглядам гэтую млявую гладзь, гэты агідны ўзор дабрабыту. Я хачу ўбачыць цябе — майго дарагога, любага таварыша, героя.

Я шукаю цябе — чуеш? — і не знаходжу.

Я гляджу з болем і страхам на тваю прыгожую постаць, яна чужая, агідная.

Ты ўсміхаешся? Кінь гэту ўсмешку — у ёй плыве давольнасць жывёлы. Не трэба смяяцца...

Твае вочы глухія, як пустата. Няма чорнага агню, няма вострых вачэй майго героя...

Ага... Я разумею... Я цяпер зразумеў. Я шукаў не цябе... Не, ты мне не трэба. У сумятні пярэстай жыцця я шукаў сталёва свежай шыры, я шукаў непазбыўнай рамантыкі.

Я пайду ад цябе. Я цябе не знайшоў, не заспеў.

Я пайду ў сумятлівае мора жыцця. Сярод блытаніны драбніц, у віры гарачай будзёншчыны, у брудным пыле вугалля, цэменту і вапны, у шаломным грукаце дзён — я буду шукаць яе, свайго дарагога, любага таварыша.

Я знайду яе, я ўбачу магутны, чорны агонь яе прыгожых вачэй, яе запал абаўе мяне жыватворчаю сілай.

Я пайду. Я знайду яе, дармо ты смяешся...

Не смейся! Смех твой агідны мне, прыкры.

Не жмур сваіх чорных глухіх вачэй, каб не бачыў я ў іх пачуцця дабрабыту, каб не свяцілася ў іх давольнасць жывёлы...

Не смейся!

Я пайду шукаць...

Я знайду...

# Максімаліст

Максімалістам назваў быў яго Вовачка Пенкін, як рабіў даклад на тэму «аб этычных нормах і прадпасылках свядомае дысцыпліны ў атрадзе». Ніхто не ведаў тады, што гэтае слова ўсяго за дзень перад тым знайшоў Вовачка Пенкін у «Слоўніку палітычных тэрмінаў», а таму ўсе, як адзін, працяліся глыбокай павагай да незвычайнае Вовачкавае прамудрасці. З таго часу максімаліста ніхто і не зваў іначай, як толькі — Максімаліст. Праўда, гэтая назва, як і ўсе іншыя назвы, потым была скарочана (Макс), але ў скарочаным выглядзе яна яшчэ шырэй зазвычаілася сярод піянераў, і сапраўднае імя Максімаліста асталося выключна толькі ў спісках атрада.

Ён і сапраўды быў максімаліст, гэты неспакойны, дакучлівы піянер. У яго была непрыемная звычка — ва Усе пытанні ўносіць нейкую раптоўную дзікую паспешнасць. Калі, скажам, стаяла пытанне аб выпуску насценгазеты, ён, замест таго, каб гаварыць пра мэты і задачы газеты, пра характар яе, кірунак і г. д., раптам пачынаў турбавацца аб тым, дзе дастаць паперы фарбаў, хто будзе маляваць, хто будзе збіраць матэрыял — ён быў відавочна ўпэўнены ў тым, што — сказаць, гэта значыць — зрабіць, і гатоў быў рабіць зараз Жа' тут, не зыходзячы нават са сходу.

І яшчэ была ў Макса адна асаблівасць: у яго надта часта загараліся вочы. У дзяцей наогул вочы ззяюць чыста і зырка — гэта свеціцца ў іх свежы агонь жыццёвага рання,— але ў Максавых — сініх, як неба, вачах агонь быў асабліва моцны і рэзкі. Калі ў Максавай галаве паўставала якая-небудзь жывая вострая думка і ў сэрцы ўзмываліся хвалі новых, яшчэ невыразных імкненняў, тады сінь яго чыстых вачэй займалася магутным полымем, і тады здавалася, што ён увесь тут, у гэтым полымі, што ў бляску вачэй гарыць, цвіце агністым цветам уся яго непакойна-бурлівая істота.

Такі быў дзіўны, недарэчны гэты Максімаліст. Ён загараўся залішне часта, ён залішне многа гарэў, гарэў больш, чымся належыць гарэць вытрыманаму піянеру. І патухаў ён толькі тады, калі іскры агню яго натыкаліся на шэрую муць бясцветнага погляду Вовачкі.

Вовачка самы старэйшы і самы разумны ў атрадзе — ён самы важны ў атрадзе, ён зусім, як дарослы. Вовачка нават

умее рабіць на сваім белазорым твары асаблівую нейкую спагадліва-насцярожаную ўсмешку, якраз такую, якую ён бачыў у аднаго з важных палітычных правадыроў. Гэтай усмешкай Вовачка і тушыць заўсёды Максаў агонь. Ад гэтай усмешкі (яе пераймаюць, яна расплываецца па ўсіх піянерскіх тварах, бо Вовачка — самы разумны і важны), ад гэтай усмешкі Макс стуляецца, як вожык, і хавае глыбока ў нутро свой непамерна зыркі агонь.

Ад гэтай усмешкі ў Макса глуха знібее сэрца.

* * *

Пытанне аб цыганятах стаяла ўжо некалькі раз на сходзе атрада. З таго часу, як побач з пярэста-шумлівым лагерам піянераў выраслі шэрымі цвілымі порхаўкамі брудныя шатры цыганоў, з таго часу, як у мяккай, шаўковай маўклівасці чэрвеньскіх вечароў пачуліся адтуль, з-за ракі, таемна-прыглушаныя адгалоскі дзіўнага табарнага бязладдзя (было многа шчымлівай рамантыкі ў вечаровых песнях, дзікіх выкрыках, у піску, у плачы, ва ўсёй гэтай напружанай сумятні),— з таго часу ўсю піянерскую ўвагу забралі на сябе няшчасныя цыганяты.

На апошнім сходзе лаялі Максімаліста. Небарака Макс, як і заўсёды, загарэўся ад цыганят занадта гарачым бурлівым полымем — ён са слязьмі на вачах дамагаўся, каб узяць іх, вырваць з бруду, гароты, пазбавіць ад здзекаў шалёных бацькоў, ад голаду, холаду, залучыць у сваю грамаду, схаваць, калі трэба, і не аддаваць, не аддаваць ні за што. Дзівак! Ён думаў, што ўсё можна зрабіць адразу, ён быў упэўнены, што — сказаць, гэта значыць — зрабіць.

Вовачка Пенкін учыніў на твары сваю партрэтную ўсмешку, яна слізганулася па тварах усіх піянераў (Вовачка — самы разумны і самы важны), і Макс пачуў, як раптам абкружыла яго сцяна агульнага пагардлівага адпору. Але ён не здаваўся, ён не мог сёння здацца, бо ў яго памяці яскрава жыў учарашні вечар — з камарыным звонам, з трэлямі нявідных мядведзькаў, з яварам каля ракі, з тым пакрыўджаным цыганём — з маленькай чорнай Алёнкай, з яго, Максавымі, гарачымі ўгаворамі. Ён многа чаго абяцаў ёй, ён думаў, што так і будзе, што гэта проста зусім, бо аб гэтым усе гаварылі і нават запісвалі ў пратакол. А цяпер выходзіла, што словы яго

астануцца словамі, што трэба чакаць, што ўсё трэба рабіць паступова.

Што ён скажа сёння гэтай маленькай слаўнай Алёнцы!

Максімаліста лаялі, з яго смяяліся. А ён упарта стаяў за сваё, ён ні за што не хацеў сёння тушыць свайго непакойна-бурлівага полымя.

* * *

Пасля сходу спявалі «жураўля». Макс неўзаметку адлучыўся ад грамады, праслізнуў паміж заплямленых вячэрнім змрокам шатроў, перабег праз невялічкі, ужо зусім цёмны, барок і па крывой, вужакаватай сцежцы падаўся ўніз, да рэчкі.

На завароце рэчкі яшчэ ляжаў перламутр пахаладзелага захаду.

Макс асцярожна, з апаскай перайшоў цераз кладку. Пад кладкай зусім ціха, ледзь чутна, хлюпала рэчка, і здавалася, што ў гэтым мяккім ліслівым хлюпанні схавала яна нейкае ліхое падступства.

На тым баку рэчкі бераг зарошшы быў лазняком і высокай, вышэй за Максавай галавы, асакой. Макс Убіўся ў гэтыя зараслі і пайшоў па іх, поўны трывожна Узнятага пачуцця, быццам ішоў ён па дзікіх джунглях, дзе на кожным кроку можна наткнуцца на крыважэрнага звера, дзе ўсё насычана смяротнай небяспекай.

Яму было прыемна адчуваць гэты востры незвычайна настрой.

Ён падышоў так да крывой карчакаватай алешыны што расла на ўзгорку, зусім недалёчка ад берага. Пад алешынай зашавяліўся нейкі чорны камочак, і адтуль пачуўся слабенькі дзіцячы голас:

— Макса! Ты?

«Макса» — гэта выходзіла троху непрыгожа і смешна, але ён не злаваў на яе —яна ж таму гэтак звала яго, што іначай не ўмела, іначай у яе не выходзіла Ён сеў каля дзяўчынкі і моўчкі дастаў з кішэні кавалак булкі, які прыблюў яшчэ ад снядання. Алёнка пачала гучна чмякаць і смешна так кулдыячыла скрозь шчытна напхнуты рот:

— Макса! Каб ты ведаў… Мы абышлі сягоння ўвесь горад… Я ўсё скакала, скакала… Я маўчала, нічогачка не казала нікому, барані божа… Дзядзька думае, што я і заўтра пайду з

ім... Хай сабе думае! А мяне заўтра і звання не будзе. Во, будзе клопату... Ці праўда, Макса?

Што Максу было гаварыць? Ён учора зусім не ведаў, што трэба ўсё паступенна, ён быў наіўна ўпэўнены ў тым, што — сказаць, гэта значыць — зрабіць.

— Макса! А дзядзька зноў сёння набраўся быў, як свіння... мы многа-многа сабралі грошай... Зноў біўся... Такі паскуднік... Во, памацай, які гуз ускочыў на галаве...

Яна сказала гэта і з крыўдай, і з гордасцю — яна ў дзіцячай сваёй прастаце ганарылася тым, што ў яе такі вялікі выдатны гуз. Макс дакрануўся рукой "да таго месца, на якое яна паказала, і яму стала страшна. Жудасным, дзіка-жудасным — да болю, да пякучых слёз — здалося яму гэтае непамернае злучэнне маленькай Аленкавай галавы з такім жорсткім нечалавечым ударам. Макс затрымаў руку на Аленкавай галаве, але гладзіў не гуз, не страшнае гэтае месца, а дробныя пярсцёнкі сухіх, як дрот, валасоў на яе худзенькай патыліцы.

— Макса! Ці скора мы пойдзем туды, да вас? Трэба, мусіць, скарэй, бо як хопіцца дзядзька, як зловіць — то задасць тады мне!..

Макс маўчаў. Максу хацелася плакаць, але дзе ж ён заплача! У яго хопіць сілы стрымацца, няпраўда! Ды гэта ж зусім і не слёзы, гэта палыхнуў востры ветрык з ракі, дык разануў троху вочы.

— Макса! Чаго ты нешта маўчыш? Я не хочу так, мне страшна. Скажы, ці скора мы пойдзем?

Трэба нешта сказаць, трэба нешта зрабіць. Вовачка гэты... Які ён нядобры! Ён, мусіць, не бачыў ні разу гэтае любае гаротнае Алёнкі.

Уся Максава істота напружваецца ў адчайных патугах — ён хоча знайсці ўсё-ткі нейкае выйсце, ён не можа забыцца на ўчорашні вечар. І вось заглухлы на момант агонь яго выбухае раптам з нечакана магутнай сілай, з такой сілай, што, каб магла яго бачыць Алёнка, яна б, напэўна, перапалохалася да смерці. І цяпер ужо Максу ўсе дарогі сталі адкрытымі, віднымі, цяпер ён ужо не баяўся нічога.

Ён смела і цвёрда ўзяў за руку Алёнку.

— Зараз пойдзем, Алёнка! Ведаеш што... Мы пойдзем дужа далёка, па лесе будзем ісці... ты не баішся?..

Алёнка з радасцю хваліцца:

— Я і на магільнік адна хадзіла. Я не баюся нічога, ані-ні...

Ён бярэ яе за руку, і яны ідуць па беразе рэчкі, па дзікіх джунглях, асцярожна рассуваючы высокую, вышэй за Максавай галавы, асаку. Цяпер Макс яшчэ больш, яшчэ свяжэй адчувае шчымліва-ўзнятае пачуццё небяспекі, цяпер жа пад яго абаронай яшчэ і гэтае малое, недалужнае дзіця.

Максу цяпер зусім добра — у ім закіпае новая, вострая, як маланка, радасць.

Перайшлі назад цераз кладку. Прайшлі міма піянерскага лагера — ён прытаіўся збоку, у густых хмарах дрыготнага змроку, і быў чамусьці страшны цяпер для Макса — страшны і чужы. Узышлі на сцежку, якая вяла ад лагера да гасцінца, углыбіліся ў чорны маўклівы лес.

Макс на хвіліну спыніўся, прыслухаўся. Піянерскі лагер ужо глуха заснуў — у піянераў цвёрдая дружная дысцыпліна — а адтуль, з-за ракі, яшчэ ішлі няясныя адгалоскі сумятлівага цыганскага бязладдзя. Макс мацней сціснуў Алёнчыну руку — сухенькую трэсачку,— бліжэй прыцягнуў да сябе дзяўчынку.

— Алёнка! Ты не бойся — я дарогу ведаю добра.

Яна слухмяна пайшла за ім. Нязграбна клыпаючы на слабенькіх ножках, яна ўсё-ткі спраўлялася., ідучы, лапатаць аб сваіх табарных справах.

— ...А цётка вучыла мяне скакаць качучу. Трэба высока-высока падымаць нагу, вышэй за галаву, каб было прыгожа. Але потым ногі дужа баляць. Гэта пакуль прывыкнеш... Цётка казала, што многа грошай будуць даваць... Хай цяпер скача сама, калі хоча...

Потым Алёнка змоўкла — мабыць, замарылася, лапатаўшы. Макс таксама маўчаў. Ён нават не чуў зусім, аб чым гаварыла Алёнка. У яго ў думках было сваё — турботнае і балючае. Яго радаснае захапленне, яго бурлівая ўзнятасць наткнуліся раптам на нешта халоднае, мулкае, што вырасла аднекуль з падсвядомай глыбіні яго піянерскай істоты. Ён успомніў пра атрад, пра Вовачку Пенкіна, пра іхныя спрэчкі і пачуў сябе злачынцам.

Ён не каяўся, не, агонь яго не патух — агонь падагравала маленькая трэсачка-ручка, якая даверліва і палатна грэлася ў яго гарачай руцэ. Але цяжка было ад турботнай няўпэўненасці, ад няведання таго, ці вялікі зрабіў ён праступак, ці праступак гэта наогул, як будуць караць за гэта яго і ці будуць наогул караць.

У Максавай душы расло прыкрае, балючае мітусенне.

Лес агарнуў іх пільна насцярожанай цішынёй — здавалася, сочыць ён, цікуе за імі чорным поглядам незлічоных вачэй, страшных у сваёй таемнай нявіднасці. Чым далей ішлі, тым шчытней апляталі іх гэтыя чорныя погляды, калолі ледзянымі іголкамі жудасці, дабіраліся аж да самага трывожна прытоенага сэрца і ўзнімалі ўнутры цені несвядомага страху.

Алёнка мацней ухапілася за Максаву руку.

— Макса! Ці баішся ты?

Макс адказвае наўмысна гучным бязрупатным голасам:

— Во... чаго ж мне баяцца? Зараз выйдзем на шлях...

На шлях яны, вядома, не выйшлі. Праз нейкі час Макс абмацаў перад сабой густы калючы куст і спыніўся. Алёнка палахліва прыцiснулася да яго рукі.

— Ну, пойдзем, Макса, чаго ты стаў?..

— Мы сышлі троху са сцежкі... Сюды трэба, налева.

Зноў нейкі куст. Звярнулі направа і ўпёрліся ў грубое караватае дрэва. Алёнка зноў запытала дрыжачым голасам:

— Чаго ты, Макса? Пойдзем лепш... ну, пойдзем хутчэй...

Макс маўчаў. Макс ужо зразумеў, што заблудзіўся. Яго сэрца захлынулася хваляй пякучай горкасці, ён раптам пачуў сябе адзінотным, усімі пакінутым і глыбока-глыбока пакрыўджаным. Мімаволі ў яго вырваліся поўныя балючай роспачы словы:

— Аднаму ў лесе дрэнна... Адзін заўсёды заблудзішся.

І ён успомніў атрад, успомніў Вовачку Пенкіна.

Алёнка сударгава ўхапілася за яго.

— Я баюся... Макса, мне страшна. У мяне ногі баляць, я замарылася.

Макс знайшоў у цемры яе галаву і з нязграбнай пяшчотай пагладзіў яе.

— Ціху, Алёнка, не бойся. Ноч цяпер зусім кароткая. Улетку ноч бывае куды карацей, чымся дзень. Ужо зараз будзе відна. Сядзем во тут, пад дрэвам, і будзем ціхенька сядзець. Ты прытуліся да мяне, дык будзе цяплей. Во так... Спі, Алёнка, не бойся — я буду цябе пільнаваць. Ты спі...

— А ваўкоў тут няма?

— Ды не, ваўкоў няма. Ваўкі дзяцей малых не кратаюць, бо дзеці ім таксама нічога не робяць. Ваўкі зусім не страшныя, я бачыў аднаго ў звярынцы. Прыгожы такі, калматы.

Чорны лес сцеражліва прыціх і пільна сачыў за імі ліпучымі поглядамі сваіх незлічоных вачэй.

Алёнка спала моцным сном зморанага дзіцяці.

* * *

Адказны таварыш, самы адказны таварыш у горадзе толькі што прыняў даклад самага адказнага сакратара і сядзеў адзін у строгім сваім кабінеце, пахмура схіліўшыся над вялізным грудам службовых папер. У кабінеце вісела магільная цішыня, і ў ёй назойліва і сумна звінела адзінотная мухіна.

Адказны таварыш быў сёння ў дрэнным настроі.

Ціхенька, быццам пад лапай зброддівай кошкі, прачыніліся дзверы, і ў шчэлку востра бліснулі гарачыя вугалькі вачэй. Потым паказаўся нос, піянерскі гальштук і, нарэшце, увесь піянер — абдзёрты, растрапаны, з слядамі бяссоння і зморы на замурзаным твары. Ён уцягнуў за сабой нейкае маленькае чорнае зданнё, якое з радасным захапленнем азіралася наўкола.

Адказны сярдзіта зірнуў на нечаканую праяву.

— Вас хто ўпусціў сюды?

Піянер зрабіў некалькі крокаў наперад.

— Мы самі прыйшлі. У нас надзвычайна пільная справа... Вось яна, Алёнка (ён шырокім махам рукі паказаў на чорнае стварэнне), яна ўцякла ад цыганоў. Я хацеў, каб узялі яе ў атрад, дык маю прапазіцыю не прынялі... А яе б'юць там...

Адказны таварыш дасадліва перапыніў яго:

— Ну, дык што вам трэба тут, га?

Піянер няўцямна развёў рукамі.

— Трэба ж неяк прыстроіць Алёнку... Я павінен зараз жа бегчы ў лагер.

І, памаўчаўшы, дадаў:

— Яна яшчэ сёння нічога не ела.

Адказны таварыш дапытліва зірнуў на яго.

— Ты хто такі?

— Я — Макс... Максімаліст.

— Максімаліст?

Па твары адказнага таварыша праслізнуў прамень цікавасці. Піянер растлумачыў:

— Гэта так завуць мяне ў атрадзе... А ў яе ні бацькі, ні маткі — яна жыве ў дзядзькоў. Яны прымушаюць яе скакаць і заўсёды б'юць... Во, глядзіце, таварыш...

Ён узяў у абедзве рукі Алёнчыну галаву і, разам з Алёнкай, падцягнуў яе да стала. Адказны таварыш мімаволі здрыгануўся і прашаптаў з ласкавым спачуваннем:

— Дзетачка...

Алёнка зрабіла на твары гордую самадавольную міну.

Самы адказны таварыш у горадзе пазваніў, і ў кабінет увайшоў самы адказны сакратар. Адказны таварыш сказаў:

— Зрабіце зараз жа распараджэнне, каб прынялі гэту дзяўчынку ў дзіцячы дом нумар першы.

Потым дадаў:

— Накарміце яе.

Потым, падумаўшы, яшчэ дадаў: — Выклічце аўтамабіль і дайце яго ў распараджэнне таварыша Максімаліста: ён паедзе на ім у піянерскі лагер.

* * *

Было дужа весела і прыемна. Макс даехаў на машыне да самага лагера, і ўсе гэта бачылі, і ўсе абкружылі яго, і ўсе наперапехі распытвалі, што з ім такое здарылася.

Вовачка Пенкін усміхнуўся, але ўсмешка не выйшла такая, як у правадыра,— выйшла ўсмешка простая і нават трошачку вінаватая.

* * *

Макс сабраў усе кнігі, якія толькі знайшліся ў лагеры. У яго было многа агню і многа ўпартасці — ён рашыў дамагчыся свайго, ён цвёрда верыў, што недзе ў кнігах павінна быць сказана, каб усе піянеры былі максімалістамі.

1926

## НА ЧЫГУНЦЫ

17-га кастрычніка 1919 г. Яўмен Грак пакінуў вайсковы шпіталь з перахлябанай торбай за каркам і чыстай, звонкай — што арэх — дзераўяшкай на месцы левай нагі. Ён сеў у поезд на грамоздкай непрытульнай станцыі, дзе ў шэрым гармідары цёрся брудны жгут чалавечых цел, дзе паветра набракшы было слізкім пахам людской цеснаты, дзе пахла хваробай і смерцю. Пасля таго вакзальнага змроку весела было дзівавацца ў расчыненыя дзверы цяплушкі на свежы прастор карагоду палёў і лясоў, на цёплыя далі з восеньскім сонцам — рахманым і мяккім.

У восеньскім сонцы, у далях веяла чыстым бязмежжам, шырокаю радасцю. Адтуль уліваласся ў сэрца нешта даўнае-даўнае і такое празрыста пявучае, як пераліўы жалейкі.

Поезд ішоў ціха, часамі зусім ледзьве сунуўся. Тады добра відаць было, як, распасцёршыся ў радаснай млосці, над рыжым іржэўнікам калыхаліся, плавалі ніткі сівой павучыны. І чамусьці ўсё ўспаміналася: дубаваты ракітавы куст над люстраным Дняпром, жалуды сярод бурага лісця пад дубам-асілкам, вогнішча й сонца... Такое ж рахманае, мяккае сонца, як і цяпер. Як кожную восень.

А ў тон успамінку, як пераліўы жалейкі, недзе глыбока-глыбока, мо па жывых струнах чулага сэрца церабіў ласкавы, тонкі напеў:

...Пад ракі-і-таю-ю зялё-о-о-най
Салдат ра-а-нены ляжа-аў...

Гэты напеў запаў у Яўменава сэрца з таго незабытага дня, калі везлі яго ў вайсковы шпіталь. Тады мітусілася ўсё ў агнёвым, жудасным сне, а на тым месцы, дзе ляжала нага, няўспынна і грозна трасла страшэнная, чорная груда і ціснула, мяла ўсяго, жвала тупым алавяным болем. І тады ў прахонах душнае цемры застрала чарнявая пляма — твар возніка-санітара: хвосцікам кручаным вусікі, чорныя вочы, жывыя, як мышкі... І гэта даўгая-даўгая, бясконцая песня якая, здаецца, цягнулася колькі гадоў разам з лёскатам парнай казённай павозкі, разам з няўпынным шоламам-звонам увушшу:

...Пад ракі-і-таю-ю зялё-о-о-най
Салдат ра-а-нены ляжа-аў...

Бадай-што, гэта й помніў толькі Яўмен з таго страшэннага сну, ад якога прачнуўся праз тыдзень бязногі. Але гэты

вобраз.асеў так глыбока й так моцна, што, мабыць, ніколі не страціць свае жывое яскравасці.

У цяплушцы, дзе ехаў Яўмен, было поўна чырвонаармейцаў. Паміж іх укомчылася колькі жанчын у падраных старых лахманах, жанчын, якія ад бруду і цяжкой зморы сталі зусім падобныя адна да адной — усе старыя і цьмяныя, як мочаны лён.

Жанчыны ўсе лапаталі. Адна, што бліжэй да Яўмена, нешта пляла пра сваю гаспадарку, пра беднасць, пра нейкае гора. Гаворачы, яна раз за разам сморгала вуснамі, падбіраючы іх, нібы папраўляла хустку на барадзе. І гэты спакойны рух, разам з глыбока эпічным, як бульканне вады, голасам, настойна будзіў пачуццё гаспадарскай сямейнасці, раджаў мімавольную павагу да наіўнае прастаты гэтае цьмянае бабы, што прыйшла ад чорнае, залітае потам зямлі, поўнай нямога аўтарытэту, поўнай цяжкой тлустай сілы.

Яўмен перакінуў сваю драўляную нагу цераз лаўку і сеў спіной да дзвярэй, каб ямчэй было слухаць старую. Пасля светлых прастораў тупа ўшчаміла зрок брудная шэрасць вагона. Здалося, не ехаў ён тут, не сядзеў, а ўкінуўся раптам сюды аднекуль знадворку, з бязмежна шырокага, укінуўся і асеў, стуліўся нутром, сцягнуў у клубок думкі-мары, што ўжо разляцеліся былі ў белы свет, у яскравыя далі.

Ад кіслага паху ў вагоне, ад чалавецкае блізкасці стала на сэрцы цёпла і цесна, быццам быў не ў вагоне, а недзе дома на печы або ў цёмнай ёўні, у душнай пары нагрэтага жыта.

Слухаць пачаў ён зважна, салідна, па-гаспадарску, дзенідзе ўстаўляў свае рэплікі і, набіраючы ў нутро самадавольнае важнасці, чакаў толькі трапнага мігу, каб расказаць штонебудзь сваё. Знаў, што ў яго больш, як у іншых, ёсць аб чым расказаць, што на гэта ён мае цяпер асаблівае права, што павінны ўсе слухаць яго з павагай, бо ён інвалід, прайшоў усе франты; бачыў смерць прад сабой не раз і не два... І ад гэтае думкі раставала сэрца ў мяккай давольнасці, забывалася горкасць калецтва, пачынаў адчуваць сябе гаспадаром, які зрабіў сваю справу і адпачывае цяпер пасля працы.

А баба цягне сваё без канца. Чырвонаармейцы слухаюць моўчкі, з лёгкім сумам на твары, з маркотай. Ува ўсіх сталасць, сур'ёзнасць. Іначай няможна, бо ў словах старой, у нямудрым апавяданні яе, як у кроплі вады, адбіваецца важнасць уся, уся святасць мужыцкага землянога жыцця.

Не дачакаўшы канца апавядання, Яўмен адвярнуўся зноў да дзвярэй. Зноў калаўротам бязмежным, featuring рознакалёрным радном закруціліся пожні, лясы — у золаце лісцяў, у золаце сонца. Тая давольнасць, што засачылася ў сэрцы, як слухаў старую, цяпер злілася з ціхай урачыстасцю восені і абярнулася ў жывую глыбокую радасць. Цяпер успомніў усё, што пражыў, што перацярпеў, і ўсё здалося так немінуча патрэбным, як кожная гаспадарская справа. Бо чуў ён цяпер, што ўвесь свет яму родны і блізкі, што ён гаспадар у гэтым свеце, у новым жыцці, за якое аддаў колькі гадоў маладосці, аддаў кавалак уласнага цела. І разам з тым пачуў Яўмен вальготнасць нейкую, лёгкі прастор душы, калі ўспомніў, што ён не ведае сам, куды едзе (няма куды ехаць), і не баіцца. Бо гаспадар жа ён, месца знойдзе сабе, дзе толькі хоча.

Пад гонкі, размашысты грукат каткоў паспрабаваў Яўмен уявіць сваю будучыню. І выйшла так, што ўваччу толькі няясныя плямы мігнулі — спляліся, скруціліся і раздаліся сухой пустатой. Стала тады непрыемна троху, што вось агульная ўпэўненасць ёсць, а каб што канкрэтнае, яснае, дык — адна пустата. Пачуў Яўмен, што чагось нестае, чагосьці няма ў яго. І перш за ўсё няма каго-небудзь блізкага, роднага. Блізкія ўсе, але трэба бліжэйшы за іншых, свой, асобны ад іншых, а такога няма. Няма нават каму расказаць пра свае планы, намеры, няма каму без спеху, ладам-парадкам выкласці ўсё, што насіў у душы, што назапасіў за колькі гадоў барацьбы.

А колькі было там усякае ўсячыны! Эх, каб гэта недзе знайсці спакойны прытулак, ды сесці ў ціхім, у цёплым, ды зірнуць каб навокал на знаёмае, блізкае, дый расказаць — спакваля так, памалу.

Каб гэта бачыць у нечых вачах іскрачкі шчырай цікавасці, каб роўны і чысты свет адданасці бачыць у гэтых вачах…

Задумаўся ціха Яўмен, стаў слухаць нутром усім адзіноту сваю, слухаць знібенне шчымлівае сэрца. Потым чамусьці цяжка стала сядзець на вачах у людзей, палез праз клумкі, мяшкі і скруціўся ў цесным прахоне пад шырокім памостам.

2

Прачнуўся Яўмен ад выбуху бурнага рогату. Рогат паўтараўся праз такія прамежкі, якіх было досыць для лятучага спрытнага жарту. Яўмен, зацікавіўшыся, вытыркнуў сваю галаву з-пад памоста.

Поезд стаяў. У прахон шырокіх дзвярэй відаць быў цьмяны свет надвячорку. Сонца было не відаць, але адчувалася, што яшчэ недзе лазіць яно па верхавінах дрэў і будынкаў, мажа іх рэзкай, вадзянай сваёй пазалотай.

За дзвярмі мітусіўся адчайны гармідар людскіх галасоў. Гам гвалтавалі, енчылі, плакалі гурмы мяшочнікаў, просячы, дабіваючыся ў вагоны, кідаючыся ад адных Расчыненых дзвярэй да другіх. Чырвонаармейцы, збіўшыся грудам каля дзвярэй, сустракалі іх сваім д'ябальскім рогатам. Была ім забава — дражніцца з абадрана-абшарпаным натоўпам, шырокай патокай наўплыўшым на поезд.

Яўмен вылез з-пад полу, праціснуўся бліжэй да дзвярэй. У гэты момант чырвонаармейцы расступіліся і ў вагон адна за адной уляцелі дзве торбы. За імі з такім жа самым імпэтам уляцела дзяўчына, падхопленая некалькімі парамі дужых мужчынскіх рук.

За дзяўчынкай усе ад дзвярэй адхлынулі. Усе абкружылі яе сярод вагона, смеючыся, жартуючы, бесцырымонна хапаючы за далікатныя месцы. Яна адбівалася і тож смяялася рэзкім, нейкім вісклівым смехам, які быў мала падобны на смех, а больш на прарэзлівы ёкат чалавека ад нейкага вострага болю.

Яўмен зірнуў у твар гэтай дзяўчыны. Твар быў страшны сваім дзікім нечалавечым выразам.

Гэта была ўсмешка... Так, мабыць, усмешка, бо вусны сударгава расцягнуліся праз увесь твар, шырока адкрыўшы белыя бліскучыя зубы.

Гэта была безумоўна ўсмешка, бо ўвесь твар быў пабраўся ў зморшчкі, пабраўся нацягнута неяк, напружана, быццам застыглі гэтыя зморшчкі, быццам так назаўсёды яны застануцца.

А скрозь гэтую дзікую грымасу смеху прарываўся страшэнны звярыны спалох. Здаецца, здушыла яна яго, сціснула гэты спалох унутры і трымае, хавае ва ўсмешцы, у рогаце, хавае ад гэтых людзей, каб не было яшчэ горш. Яна ўжо чакае, ужо ахвяравала сябе на нешта страшное, чаго нават не можа ўявіць, і смехам гэтым хоць трошку ўлашчыць некага хоча, хоць трошку сябе падбадрыць, заспакоіць.

Яшчэ заўважыў Яўмен вочы дзяўчыніны, шырока раскрытыя, чорныя. Бегалі яны па баках, шукалі нечага, а мо некага, шукалі, мабыць, дапамогі, ратунку. І такі ў гэтых вачах быў боль, адзінота, такі быў горкі адчай, што ў Яўмена

страсянулася сэрца ад жалю. Ён кінуўся ў кола хлапцоў і закрычаў несваім, нейкім вузкім, зашчэмленым голасам:

Што вы... забаўку знайшлі... Не бачыце — дзеўка кранулася з памяці... чэрці...

Яго словы пакрыў дубовы раскацісты смех. А з смеху ўз'явіўся тонкім фальцэтам нечы насмешлівы голас:

— Абаронца бязногі!.. Аблакат!..

Яўмену сціснула сэрца, кроў галаву наліла гарачым свінцом. Не помніў ён сам, што было. Кідаўся на некага, нешта крычаў, некага біў... у жалезных абдымках некалькіх мужчын яшчэ біўся ўсё, трапятаўся, Потым заціх, абамлелы ад зморы.

І пацішэла тады чамусьці ў вагоне. Гаварылі ўпаўголаса ўсе, толькі адзін бурчэў сярдзіта — скрозь зубы — і моцна:

— Над інвалідам смяяцца... тожа знайшоўся разумнік... Знайшоў, над кім пачасаць язычок... От, як самому так адарве, дык узнаеш, што гэта значыць... Скалазуб...

Сімпатыя ўсіх была за Яўменам. Яму хацелася плакаць — цяжка было нават стрымацца.

Дзяўчыну больш не чапалі. Яна моўчкі сядзела на крайчыку пола — глядзела роўна перад сабой, быццам не знала, ці добра гэта ўсё абышлося, ці мо трэба чакаць яшчэ чаго ад салдатаў.

Яўмен сеў у кутку і моўчкі ступіўся.

У вагоне сцямнела. Дасталі недзе свечку, ад яе распаўзліся, хістаючыся, цені вакол, сталі рэчы і людзі няясныя, цьмяныя. Калматы гэты, расхрыстаны свет ды дрыжэнне вагона пад аднамерны, панура-настойлівы, нібы адлятаючы некудыляскат каткоў, зліваліся ў нейкую фантастычную казку.

Яўмен упінаў зрок у дрыготны агонь і — нерухомы, застыглы — аддаваўся чуламу спакою, убіраў у сябе ўсім целам, усёй істотай блытаніну дрыготных гукаў, заслоненых агульным фонам грукату поезда і далёкіх-далёкіх, як галасы з-за тоўстай нейкай сцяны.

І здавалася тады, што гэта не вагон, а змрочная, цесная хата — родная хата яго — і не чужыя людзі гэта гамоняць, а дзед стары казку гаворыць яму — пра ваўкоў, мядзведзяў, пра нячыстую сілу. Дзед такі спакойны-спакойны, як зіма, як лес узімку, калі дрэвы з барадамі сівымі, з белым валоссем стаяць ціхія, глыбокадумныя.

Дзед казку гаворыць — спакойны-спакойны,— а на дварэ завіруха мяце, і пішчыць, і енчыць, паганая, дабіваецца ў хату,

у вокны. І яшчэ кот курню пяе... так... крру... крру... кррру-у-у...

— У-у-у-у...

Яўмен здрыгануўся. Над вагонам нёсся пастойны гудок, поўны сцюдзёнай журбы, поўны крыўды на некага. Ляцеў гэты гудок, здаецца, з адчайнай шпаркасцю, ляцеў, каб нарвацца на нешта грубае, цвёрдае і разбіцца ў адчаі, рассыпацца.

Усё роўна, прапала ўсё чыста!..

І рассыпаўся, знік. Заёрзаў вагон па стрэлках. Абкружылі другія гудкі — задорныя, вёрткія,— гудкі манеўраных жорсткіх і спрытных паравікоў.

Поезд стаў на нейкай вялікай станцыі. У вагоне ўжо спалі ўсе чыста — на падлозе пераблыталіся торбы, мяшкі з чалавечымі фігурамі, пакручанымі, пакрыўленымі — у страшных ненатуральных паставах.

На тым самым месцы, на крайку памоста, сядзела дзяўчына. Яўмен пачаў узірацца ў яе застыглы твар, цьмяна асвечаны дрыготным святлом. Можа, таму, што ён быў густа ахутаны ценем, можа, таму, што змрок сціраў, згладжваў рысы яго, Яўмену здалося цяпер, што ён падобны на нечы твар — добра знаёмы яму і прыемны. Ён пачаў думаць і здумаў, што ў яго маткі быў такі твар, калі яна досвета прала, а ён — малы яшчэ — прасыпаўся на момант, поўны цёплай ласкі і радасці, кідаў на матку зմораны сном погляд і зноў засынаў, спакойны, угрэты ціхай прытульнасцю верацённае песні.

Яўмена пацягнула раптам да гэтае чужое дзяўчыны, як да свае, захацелася нешта сказаць ёй, а можа, спытаць. Ён пазяхнуў перш, паправіў сваю дзеравяшку і потым спытаўся:

— Позна гэта, ці што?

Яна здрыганулася і, не гледзячы на яго, праказала:

— Гадзін восем будзе, напэўна. А можа, няма яшчэ.

Яўмен троху змоўчаў, яшчэ пазяхнуў і прабурчэў:

— Такі цяпер дрэнны народ пайшоў... Звяры чыстыя... Трэба ж гэта — прывяжуцца, як смала...

Дзяўчына раптам ажывілася і загаварыла парыўчата, хапаючыся, быццам спяшалася некуды:

— Я б нізавошта не села, каб яшчэ хлеб быў... Я ўжо ведаю... Але хлеб увесь выйшаў, а там няма дзе купіць... Суткі не ела, дык і палезла з радасцю — абы паехаць...

Тады Яўмен спакваля развязаў сваю торбу, дастаў чэрствы кавалак хлеба і разламаў яго на дзве палавіны.

— Наце, перакусіце…

Яна схапянулася, засароміласе.

— Ды не, што вы… Я так проста сказала… Я ў N дастану, куплю.

— Наце, пажаласта…

Як брала, не зводзіла з хлеба вачэй. А яны галодна блішчэлі — сухія, шырокія.

Яўмен стаў есці другую палавіну…

— Перабірайцеся-тка сюды, да мяне…

І яна слухмяна паднялася, узяла свае торбы, перасела бліжэй да яго.

У гэты час крануўся поезд. Зноў затрасло, зноў зліўся развалісты танец вагона з калматым расхрыстаным светам, зноў пацягнулася самадавольная песня каткоў.

Тады пачалася ў Яўмена з дзяўчынай доўгая шчырая гутарка.

Расказаў ён, як быў паранены, як ляжаў у шпіталі, як выпісаўся і паехаў проста ў свет, невядома куды, бо родны край за мяжой, няма ні сям'і, ні кута, дзе прыхіліцца.

Дзяўчына слухала ўважліва, у вачах у яе відаць было спачуванне, і Яўмену ад гэтага было радасна, хацелася гаварыць яшчэ і яшчэ. І чым далей гаварыў, тым больш было шчырасці ў словах, тым больш адчуваў давер да гэтай чужой, незнаёмай дзяўчыны, быццам не тут во сустрэў ён яе, а знаў даўно, быццам была яна блізкай яму, сваёй… Сціхнуў толькі тады, як пачуў, што няёмка неяк усё аднаму гаварыць, што трэба ў яе распытаць.

Тады яна расказала, што едзе да радні на вёску, яшчэ асталося вёрст трыста. Вязе троху солі, бо там няма — чыстае гора… Бацька ў яе памёр яшчэ да вайны, а ёсць толькі матка старая ды меншы браценнік. Яны асталіся ў горадзе — мабыць, памруць, бо няма чаго есці…

У гутарцы час праляцеў неўзаметку. Поезд каціўся й каціўся — роўна, паспешна — часам станавіўся, нязграбна ляскаючы буферамі, стаяў мінут дзесяць — пятнаццаць і зноў калупаўся памалу. Было супакойна ад таго, што так спраўна ідзе поезд, што не стаіць, як іншы раз, па колькі гадзін. А Яўмену супакойна было яшчэ й ад таго, што быў не адзін ён

ужо, што быў з ім_ другі чалавек — чужы, але блізкі ўжо, якому можна ўсё гаварыць, які слухае й спачувае.

Калі ж заўважыў Яўмен, што дзяўчына дрыжыць ад прадсоннага холаду, ён сагнуўся й расчысціў пад памостам месца сярод мяшкоў і рознага смецця.

— Ляж, трохі засні!..

— А вы?

— Я ўжо спаў, пасяджу...

Дзяўчына лягла, да мяшкоў прытулілася, быццам хацела сагрэцца ад іх. Здалася Яўмену яна маленькай зусім — чыстым дзіцёнкам. І заціплілася ў сэрцы ў яго ціхая жаласць, пяшчота... Ад таго, што ляжала яна, а ён сядзеў і нібы сцярог яе сон, пачуў ён, што ткі сапраўды ёсць паміж іх нешта блізкае, што яна ўжо свая яму, родная — гэта выпадковая падарожніца.

Дзяўчына ж не спала яшчэ. Яна раптам узнялася і праказала нейкім новым, цяжкім, быццам чужым голасам:

— Тут ёсць яшчэ месца, дзе легчы... Вам можна таксама...

І тады так проста зусім, натуральна адбылося тое, што есць найвялікшая тайнасць жыцця, найвялікшая радасць і боль...

Як пачаў цалаваць Яўмен дзяўчыну, яна не баранілася. Яна раптам заплакала ў яго на грудзёх. У плачы гэтым чуў Яўмен глыбокі давер да сябе, чуў, што й яго лічаць не за чужога...

Засынаючы потым у цеплыні шчыльна сціснутых цел, Яўмен на момант успомніў:

«Раніцой будуць смяяцца...»

Але не схапянуўся, не ўстаў.

«Хай сабе. Усё роўна...»

І заснуў моцна, спакойна...

3

За пераплётам рэек распласталася пожня, а за пожняй кудлаціўся жоўты лясок, чэзлы і рэдкі, тыповы лясок пры чыгуначнай станцыі. На ўзлессі раскінуўся стан пасажыраў, што чакалі чарговага поезда. Сярод жылаватых пакалечаных кустоў крушынніку дзе-нідзе цьмелі вогнішчы. Ад іх асцярожна ўздымаўся сінявы дымок і прытоена віўся празрыстымі ўніткамі паміж убранага золатам вецця, быццам краўся, хацеў праслізнуць неўзаметку ўгару і там палунаць над макушкамі дрэў — на прасторы, на волі сцюдзёна-чыстага рання.

Па кустах там і сям, больш каля вогнішча, паўтыркаліся людзі — звіліся клубочкамі шэрымі, прытуліліся адзін к аднаму, каб хоць троху сагрэцца, хоць троху прагнаць перадранішні холад. Некаторыя гаманілі, апавядалі адзін аднаму бясконцыя свае апавяданні, якія могуць радзіцца толькі ў далёкай маруднай дарозе, калі ўжо страцілася вострасць чакання канца, калі ўжо ўсё роўна: ехаць ці так вось сядзець у кустах ля чужой незнаёмай станцыі, у чужой далёкай краіне...

Яўмен з сваёй таварышкай перабраўся скрозь гэты стан падарожнікаў і ўглыбіўся ў рэдкі, хударлявы лясок, які, аднак, пацягнуўся і пацягнуўся бясконца, то адкрываючы на момант прасветы наперадзе, то зноў затуляючы іх.

Пад нагамі мякка ўгінаўся волкі дыван свежаасыпаных лісцяў. Ціхі шэпат насіўся наўкола — шэпат, поўны глыбокага нейкага жалю, поўны хаўтурнай урачыстасці. Ад гэтага шэпату, ад цішыні паважнай, старожкай адчуваў чалавек сябе ціха і чыста, адчуваў самотнасць глыбокую, быццам стаяў, вылучаны ад усіх і ўсяго, перад строгім пільным поглядам прыроды — адзін прад светам усім.

Яўмен ішоў, не азіраючыся, не гледзячы на сваю падарожніцу, быццам забыўся зусім на яе. Глядзеў проста перад сабой у пазалотку бліскучую дрэў і думаў аб тым, як гэта добра ўвосень быць у лесе, як прыемна дыхаць волкім паветрам, у якім цяпер асабліва моцна пахне зямлёй, пахне даўным і родным.

Нарэшце выйшлі яны на невялічкую палянку, роўна абкружаную залатымі карункамі дрэў і кустоў. У гэты момант слізнулі па лесе першыя густа-чырвоныя косы ўзышоўшага сонца. Яны пралезлі праз рэдкае вецце і дрыготна рассыпаліся па палянцы — выбралі месца сабе, каб пакачацца па мяккаму дывану, каб памыцца спрасонку ў халоднай расе.

Яўмен спыніўся, паставіў на дол сваю ношку, зірнуў радасна на гульню ранняга сонейка, на хараство вакол незвычайнае і давольна ўсміхнуўся. Потым перавёў погляд на дзяўчыну, глядзеў на яе з глыбокай пяшчотай, з добрай, ветлай усмешкай на твары.

Дзяўчына ў адказ яму тож усміхнулася. Нешта між іх праляцела — лёгкае, светлае: можа, ружовая радасць сяброўства, можа, прамень кахання ўзаемнага. Не зводзячы светлых вачэй з твару дзяўчыны, паклаў Яўмен на плячо ёй руку і сказаў:

— Давай, жонка, сядзем ды адпачнём.

І ад нечаканасці сам заліўся радасным смехам, страсянуў смелым, гуллівым рогатам урачыстую ціш ранняга лесу.

Селі тут жа ўдваіх на зямлю, пад крушынавы куст, які акрапіў іх сцюдзёнымі пырскамі чыстай расы.

Яўмен глядзеў на дзяўчыну, на нечаканую жонку сваю. Яе абліло цяпер сонца цёплаю чырванню — вочы яе сталі глыбокімі, а ўсмешка таемнай і млявай. Яўмену прыемна стала, што яна — дзяўчына нішто, што ў іншых жонкі ёсць куды горшыя. І за тое, што яна не благая, захацеў Яўмен нешта такое сказаць, каб і ёй прыемна было, каб было радасна. Але дзе ж гэта знойдзеш словы такія!..

Тады сарваў нейкую пажоўклую кветку і, жартуючы, кінуў у твар ёй. Яна засмяялася неяк проста, зусім па-дзіцячаму. Шчыра, весела засмяялася.

Пачалі тады цалавацца...

Сонца лезла вышэй ды вышэй — паплыло ўжо над верхавінамі дрэў, усё абсушыла, абцерла і ўсё прыгрэла сваёй дабрадушнай цеплю.

Яўмен спаў на палянцы, раскінуўшы рукі і ногі, адкрыўшы для сонца свой рыжы, даўно ўжо няголены твар. Над тварам круцілася асенняя муха, выбіраючы месца, дзе сесці. Калі садзілася ды кусала, Яўмен пачынаў корчыць міны, падміргваць. Муха злятала і зноў выбірала месца, дзе сесці. А потым муху прагнала дзяўчына, села каля Яўмена і пачала перабіраць грыбы, што набрала толькі што ў лесе. Перабіраючы, кідала ўсё поглядам на Яўменаў твар і ўсміхалася нечага хітравата-ласкавай усмешкай.

Як перабрала грыбы, дзяўчына яшчэ забаўлялася троху, казытаючы твар Яўмену былінкай, а потым ужо разбудзіла яго. Як будзіла, пільна сачыла за тварам, каб убачыць, што адаб'ецца на ім, калі ўбачыць яе спрасонку.

Яўмен убачыў яе і ўсміхнуўся з млявай давольнасцю:

— Ты ўжо не спіш?

— Я даўно прачнулася. Бачыш, грыбоў назбірала — будзем пячы.

— О, ты ўжо бярэшся за гаспадарку?

— .А як жа... Уставай цяпло раскладаць.

Яўмен устаў, пачаў збіраць сухое галлё. Збіраў марудна, спакваля. Знаў, што спяшацца няма куды, што дзень вялікі яшчэ, што наогул усё з сабой у яго, што цікава, патрэбна яму.

Часамі падымаючы якую галіну, ён раптам на паўдарозе спыняўся і застываў на колькі хвілін, быццам заўважыў што або працяўся нейкай раптоўнай думкай. А думкі ў яго не было аніякай, гэта ён прыслухоўваўся проста да таго, прыемнага, што грэлася ў сэрцы, да сакавітага, радаснага жыцця свайго. А то дык кідаў у вакольныя дрэвы ўсё, што набраў, кідаў з нейкім імпэтам, з гуллівая сілай. Тады дзяўчына спыняла яго, смеючыся:

— Што ты? Калі ж ты цяпло раскладзеш?

Нарэшце ён назбіраў, пачаў раскладаць. Яна памагала яму. Часамі дым лез ёй у вочы, і яна смешна так адкідалася ўбок, кулакамі тручы сабе твар. Яўмену гэта падабалася. Ён смяяўся мацней, чым трэба, і потым неўзаметку махаў рукой так, каб зноў падаўся дым да яе.

...Калісьці ў дзяцінстве — было яму гадоў дзесяць тады — ён пасвіў коні з адной дзяўчынкай. Так неяк траплялася, што вялі яны ў адно месца і толькі ўдваіх. І тады ён дражніўся з дзяўчынкай той, таксама ў вочы ганяючы дым. І яшчэ ён ёй назаляў адной песняй пра качку (качкай дражнілі яе). А з дзяўчынкай той дужа дружыў і марыў, што калі вырасце, дык з ёй ажэніцца...

Гэта чамусьці ўспомніў цяпер Яўмен. А з гэтым разам хлынула цэлае мора даўнага, салодка-шчымлівага. І чамусьці зноў, як тады ў вагоне, ракітавы куст над люстраным Дняпром, і жалуды, і буры разложысты Дуб... І зноў той ласкавы тонкі напеў:

...Пад ракі-і-таю-ю зялё-о-о-най
Салдат ра-а-нены ляжа-аў...

Тады раптам уздумаў пра калецтва сваё. Апаў адразу настрой, нешта горкае па нутру разлілося — балюча стала і крыўдна. На дзяўчыну зірнуў з нейкай апаскай, з трывогай.

«Як я забыўся... Гэта ж калека я...»

Дзяўчына заўважыла яго смутак.

— Чаго прызаўныў?..

— Ат! Нічога...

Дзе ж ён скажа ёй!.. Хай сабе. Ён і адзін пражыве, іакі ўжо лёс яго, калекі бязногага... А яна зусім прыгожая, здаровая... О, яна можа знайсці сабе мужа... Такую возьме хто хоця...

Моўчкі клаў грыбы ў гарачы прысак, моўчкі варочаў іх. Сядзеў, пахіліўшы галаву, не думаў ні аб чым, бо думкі ўсё

